ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

№ 11 (лістапад) 2015

У нумары:






Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Вялікія жартуюць...

Міні-кніжка



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# N.B. «Нота бенэ»

## Звярні ўвагу!




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Валянціны КАСЯК.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

---

ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Кожны з вас, напэўна, можа ўзгадаць тое-сёе з біяграфій такіх выбітных асоб, як Альберт Эйнштэйн, Марк Твэн, Вольфганг Моцарт і інш.
Але ці цікавіліся вы калі-небудзь тым, якімі вядомыя на ўвесь свет людзі былі па жыцці?
Ці ўмелі яны жартаваць, ці любілі смяяцца?
Мы ўсур'ёз задаліся гэтымі пытаннямі і вырашылі зрабіць вось такую адмысловую міні-кніжку. У ёй сабраныя найбольш цікавыя і вясёлыя гісторыі з жыцця вялікіх людзей. Тут вы знойдзеце цэлы шэраг актуальных афарызмаў на самыя хвалюючыя тэмы: быт, бацькі і дзеці, жанчыны і мужчыны, здароўе, узрост, аптымізм.
Спадзяёмся, што гумар знакамітасцей дапаможа вам у каторы раз упэўніцца: існі па жыцці з усмешкай нашмат лягчэй, чым без яе!
Жадаем вам прыемна правесці час!

# Мініяцюры

Рамантыкі ўсе людзі ад прыроды.
У марах спачываючы ад стомы,
Стаць Македонскім хочацца заўсёды,
А ў выніку — нікому невядомы!



***

Зламаў руку. Такая вось гісторыя!
Але не зразумела мне, чаму
Ніхто не пацікавіўся: «Каторую?»
Пытаюцца адно: «Зламаў каму?»



***

Мы знаем ісціну такую
Даўно, відаць, яшчэ са школы:
Той, хто зусім не рызыкуе,
Не лечыць нервы карвалолам.

***

Многа залежыць ад грошай фундатараў,
Толькі і тут не бывае ўсё чыста:
Ноеў каўчэг будавалі аматары,
А вось «Тытанік» — спецыялісты.




***

У жыцці бываюць перашкоды,
Часта пра нязбытнае шкадуем.
Марым першай скрыпкай быць заўсёды,
Ды танцуем пад дуду чужую.




**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*






Малюнкі Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.





Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Алега ПАПОВА.

**Анатоль ЗЭКАЎ**




Сышліся неяк на двары
Паўлін і Певень,
Два сябры.
Узнялі веерам хвасты
Ды спрэчку усур'ёз,
Ў каго з іх лепшы хвост,
Распачалі.
Да хрыпаты
Крычалі мо паўдня,
А тлуму было колькі!
Сур'ёзная ішла грызня,
Ледзьве пазбеглі бойкі.

_____

Калі ж разважыць строга:
Навошта гэты тарарам?
Вядома, грош цана хвастам.
Калі у галаве — нічога.




Малюнак
Аляксандра ПЯТРОВА.




Той, каму хоць трава не расці, наўрад ці пасадзіць дрэва.

**Як ні круці, а ў жыцці іншы раз даводзіцца і выкручвацца.**

Нішто так не аб'ядноўвае і не раз'ядноўвае людзей, як грошы.

**Калі дурасць напісана на твары, яе ніяк не схаваеш.**

Для паўнаты жыцця трэба мець поўны кашалёк.

**Не кожны генерал здольны камандаваць жанчынай.**

Чалавек, які страціў пачуццё адказнасці, заўсёды знойдзе сабе апраўданне.

**Гаспадар свайго слова не раскідваецца словамі.**

У таго, хто здольны чырванець, валасы хутчэй сівеюць.

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*

## АФАРЫЗМЫ

### Жыццё

Жыццё — гэта тое, што людзі больш за ўсё імкнуцца захаваць і менш за ўсё берагуць.

*Жан дэ Лабруер, французскі пісьменнік*

Нечаканае здараецца ў жыцці часцей, чым тое, чаго чакаеш.

*Ціт Макцый Плаўт,*
*старажытнарымскі паэт-камедыёграф*

Наша жыццё праходзіць у імкненнях да таго, чаго ў нас няма, і ў шкадаванні пра тое, чаго ў нас больш не будзе.

*Жозэф Ру, французскі паэт*

Два разы не жывуць, а шмат і такіх, якія і аднаго пражыць не ўмеюць.

*Фрыдрых Рукерт, нямецкі паэт*

Хоць чалавечаму жыццю няма цаны, мы заўсёды дзейнічаем так, нібы існуе нешта яшчэ больш каштоўнае.

*Антуан дэ Сэнт-Экзюперы, французскі пісьменнік*



# Асаблівасці маркетынгу

*Фельетон*




Добра, калі людзі сябруюць усё жыццё. Спачатку ходзяць у адзін дзіцячы садок, потым сядзяць побач за партай у школе і нават розныя інстытуты не разводзяць іх у супрацьлеглыя бакі. На таварышаў, якія прайшлі з табой праз ваду, агонь і медныя трубы, заўсёды можна разлічваць у цяжкую хвіліну і ў любых выпадках прасіць дапамогі ці парады.

Такімі сяброўкамі былі Света, Алена і Алеся. Нават калі ў кожнай меліся свае сем'і і свабодныя хвілінкі надараліся рэдка, яны ўсё роўна заходзілі адна да адной у госці.

Цяпер жанчынам стукнула ўжо па пяцьдзясят, дзеці павырасталі – і вольнага часу стала значна больш. Таму яны завялі звычку – раз у два тыдні абавязкова збірацца ў кагосьці з іх на кватэры.

У гэтую суботу вырашылі завітаць да Алены. Калі ўрэшце ўладкаваліся на кухні, Света, якая працавала ў школе настаўніцай, сказала:

– Ох, вы нават не ўяўляеце, як я стамілася за гэты тыдзень! Нешта столькі ўсяго навалілася. Думала, што не дачакаюся выхадных.

– І не кажы, у самой такі ж завал, – са спачуваннем прамовіла стаматолаг Алеся.

– А я ў адпачынку, мне вашыя праблемы не зразумець, – ехідна заўважыла прадаўшчыца Алена.

– Нічога-нічога, праз тыдзень «халява» скончыцца, паглядзім, як заспяваеш пасля гэтага, – хітра прыжмурыўшы вока, прамармытала Света.

– Так, паслухаем і тваё ныццё, – сказала Алеся і чамусьці ўтаропілася на халадзільнік.

Алена прасачыла за яе позіркам:

– Што ты там убачыла?

– Ды запрашэнне нейкае. Цікава ж, вось і спрабую прачытаць.

– А, гэта я па пошце атрымала. Прадстаўнікі кампаніі «Лама Голд» клічуць на прэзентацыю. Там будуць дэманстраваць нейкую новую пасцельную бялізну з воўны аўстралійскага мерыноса новазеландскага тыпу. Гавораць, што яна лячэбная і дапамагае пазбавіцца ад многіх хвароб, – пралапатала на адным выдыху гаспадыня кватэры.

– Нават не думай туды ісці! – катэгарычна заявіла Света.

– Чаму? – здзівілася Алена.

– Ды чула я пра гэтую кантору і магу сказаць адразу, што не варта туды хадзіць, – з запалам у голасе

---

Як байка, так і жыццё цэніцца не за даўжыню, але за змест.

*Сенека Малодшы,*
*рымскі пісьменнік, філосаф, палітычны дзеяч*

Увесь сакрэт прадаўжэння жыцця заключаецца ў тым, каб не ўкарочваць яго.

*Эрнст фон Фейхтэрслебен,*
*аўстрыйскі пісьменнік*

Калі вы хочаце, каб жыццё ўсміхалася вам, падарыце яму спачатку свой добры настрой.

*Бенедыкт Спіноза, нідэрландскі філосаф-матэрыяліст*

Усё нашае жыццё ідзе на тое, каб навучыцца карыстацца ім.

*П'ер Буаст, французскі лексікограф*



Жыццё падзяляецца на дзве часткі: першую загубілі нашыя бацькі, другую – дзеці.

*Кларэнс Дароу, амерыканскі юрыст і пісьменнік*

Не бойцеся таго, што вашае жыццё павінна скончыцца: бойцеся таго, што яно так і не пачнецца.

*Джон Генры Ньюман, кардынал і прапаведнік*

пачала расказваць Света. – У калегі мужа маці нядаўна трапіла на прэзентацыю кампаніі «Лама Голд». Думала, што пачуе нешта цікавае і карыснае, людзей новых пабачыць, бо сумна на пенсіі. Тым больш, там абяцалі нейкія падарункі. Калі вядучыя пачалі расхвальваць гэтую бялізну, то бабулька быццам пад гіпнозам апынулася. Чаго толькі яны не наабяцалі, як ні ўзносілі сваю прадукцыю! Гарантавалі: ад іх бялізны перастануць балець суставы, бо яна паляпшае цыркуляцыю крыві, робіць мікрамасаж і ахоўвае ад паразітаў (кляшчоў). Яе нават мыць не трэба! Такім чынам, выдаткі людзей, якія купляюць такія рэчы, значна зменшацца. Тым больш, толькі ў час прэзентацыі ў запрошаных ёсць неверагодная магчымасць: па акцыі атрымаць увесь камплект не за 16 мільёнаў рублёў, а па зніжцы ўсяго за 10, 9 мільёна рублёў. Старая, пачуўшы такое, захацела адразу набыць цуда-бялізну, але столькі грошай у яе з сабой, зразумела, не было. Аднак арганізатары пралічылі ўсё: прапаноўвалі ўзяць крэдыт «на вельмі выгадных умовах», толькі ў выніку з працэнтамі ён абыходзіўся ажно ў 13 мільёнаў рублёў. Усё роўна пенсіянерка згадзілася...

– Ого! А што далей? – амаль у адзін голас спыталі Алена і Алеся.

– Нічога добрага. Прыйшла дамоў і зразумела: «такія ўмовы» яна не зможа пацягнуць. Якраз сын да яе завітаў. Высветліў: дагавор можна скасаваць, пакуль з моманту заключэння не мінула два тыдні. Але пры ўмове, што тавар не выкарыстоўваўся. Смешна, толькі яго трэба везці ажно ў Гродна, дзе знаходзіцца галоўны офіс «Лама Голд», бо ў Мінск і іншыя месцы яны прыязджаюць на прэзентацыі. Вось і давялося калезе майго мужа адпрошвацца з працы, ехаць аддаваць бялізну. І такіх людзей вельмі многа. Большасць з іх не ведае, што рабіць у падобных выпадках, і спраўна выплачвае крэдыт за бялізну, якая ім не патрэбна, – скончыла Света сваю гісторыю.

– Ух, ты! Маркетынг ва ўсёй сваёй красе, больш няма чаго сказаць! Ведаеце, я пачынаю баяцца гэтай навукі, – задуменна прамовіла Алеся.

– Чаму? – не зразумела Алена.

– Ды я таксама хадзіла на падобную прэзентацыю ў цэнтр прыгажосці «Desheli». Там мне дэманстравалі касметыку. І ўсё вельмі падобна. Рабілі розныя касметычныя працэдуры, якія паказвалі ўсе плюсы іх прадукцыі. Потым прапанавалі купіць набор разнастайных масак і крэмаў. А гэта, між іншым, цэлы чамадан касметыкі, разлічанай на год. Яны запэўнівалі, што за дванаццаць месяцаў усе мае праблемы, звязаныя з узроставымі зменамі скуры, можа, і не знікнуць, але яе стан значна палепшыцца. І таксама былі зніжкі ў гэты дзень – замест ажно 40 мільёнаў рублёў я магла заплаціць усяго 23. Зноў прапаноўвалі крэдыт на вельмі выгадных умовах. Мае сяброўкі, я згадзілася б, як тая пенсіянерка, калі б мяне не выклікалі тэрмінова на працу. Што потым рабіла б з гэтай касметыкай, крэдытам і сваёй прыгажосцю, нават не ведаю! За такія грошы, мабыць, змагла бператварыцца ў мадэль з вокладкі моднага часопіса, – пад канец свайго аповеду амаль смяялася Алеся.

– Ага, і, як тая змяя, скінула скуру і змяніла яе на больш новую і бліскучую, – рагочучы, падтрымала яе Алена. – Калі па-сур'ёзнаму, то ні на якія прэзентацыі мяне ўжо не зацягнеш. Маркетынг, як я ўжо зразумела, цікавая навука, але ж надта хітрая. А для ўражлівых людзей яна яшчэ можа быць і вельмі дарагой.

Пасля такіх сур'ёзных размоў сяброўкі перайшлі на больш лёгкія тэмы, успаміналі дзяцінства і маладосць. Але ў кожнай у галаве круцілася адна думка: зніжкі не заўсёды бываюць выгадныя...

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

---

## ВЯЛІКІЯ ЖАРТУЮЦЬ...

### Чаму я жывы?




Аднойчы Марк Твэн атрымаў пачак слабых вершаў з назваю «Чаму я жывы?».

Вяртаючы рукапіс невядомаму аўтару, Твэн напісаў яму: «Таму, што адаслалі вершы па пошце, а не прыйшлі ў рэдакцыю асабіста».

### Зразумеў мужа

Неяк Артур Шапенгаўэр абедаў у кампаніі адной гаваркой дамы. Яна ў падрабязнасцях распісвала яму, наколькі няшчасная ў шлюбе. Філосаф цярпліва слухаў. Але калі жанчына спытала, ці разумее ён яе, то адказаў:

– Не, але вельмі добра разумею вашага мужа.




### Не з пустымі рукамі



Фаіна Раneўская запрашае да сябе ў госці і папярэджвае, што званок не працуе.

– Калі прыйдзеце, грукайце нагамі.

– А чаму нагамі? – здзіўляюцца госці.

– Вы ж не з пустымі рукамі збіраецеся прыходзіць!



«Кнігарня «Вожыка»

# НОВАЯ КНІГА — НОВЫЯ «ЖАРТАЧКІ»

Многім аматарам трапнага лаканічнага гумару даўно прыйшліся даспадобы вершаваныя карацелькі Міхася Мірановіча. Спяшаемся падзяліцца прыемнай навіной: нядаўна ў сталічным выдавецтве «Медысонт» пабачыла свет трэцяя кніга «Жартачак» вядомага паэта-гумарыста.

Міхаіл Канстанцінавіч не здраджвае свайму фірменнаму стылю: мініяцюры з новага зборніка прасякнуты добрымі ўсмешкамі, нечаканымі, часам парадаксальнымі высновамі, нетрывіяльнымі разважаннямі. Аўтар задаецца «Спрадвечнымі пытаннямі», далучаецца да дружнага «Мужчынскага хору», прыручае «Дзікіх гаспадынь», выводзіць «Аксіёму кахання», смяецца са «Шлюбнага атэізму», цікавіцца «Пенсійнай філасофіяй», назірае, як ткуцца «Кросны жыцця», і пры гэтым заўжды застаецца ў «Сваёй каляіне». Восем раздзелаў — восем адмысловых поглядаў на розныя бакі чалавечага жыцця, яго паўсядзённыя радасці і клопаты.




Мы шчыра віншуем Міхася Мірановіча з пасляховым завяршэннем гумарыстычнай трылогіі і спадзяёмся на новыя творчыя здзяйсненні. Чытачам жа прапануем порцыю выдатнага настрою ў выглядзе свежанькіх міранізмаў.

**Міхась МІРАНОВІЧ**

## Калі ёсць што сказаць…

Чаму,
Хто мог бы падказаць,
Каб зноў патыліцу
Не чухаць,
Калі мы
Маем што сказаць,
Дык не бывае
Каму слухаць?..

## Першы раз

Здзіўляе ўсіх
Пятрок падчас:
– Папрокі
Не ўспрымаю.
Жыву пакуль што
Першы раз
І вопыту
Не маю!

## Стварэнне жанчыны

Другою Бог
Стварыў жанчыну,
Была ў яго
Свая прычына:
Хацеў ён,
Каб жанкі не мелі
Памылак
Першае мадэлі.

## Згадкі з настальгіяй

Быў я малады
І нежанаты,
З настальгіяй
Згадваю час гэты:
Позіркі
Адводзілі дзяўчаты
І стралялі вочкамі
Кабеты...

## Ашуканства

– Ты мяне, Марыля,
Ашукала:
Памятаю я,
Як па вясне
З многімі мужчынамі
Гуляла,
Але выйшла
Толькі за мяне!

## Дзедава восень

– Хоць мая песня
Пакуль што не спета,
Ясна адно, –
Разважае Мацвей. –
Хутка закончыцца
Бабіна лета –
Дзедава восень
Чакае мяне.

## Кампраміс

Сумненню гэты факт
Не падлягае,
Што мае праўду
Кожны з нас сваю.
І хоць яна
Заўжды перамагае,
Ды часам згодна
І на нічыю.




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




– Мама, мама, – цягне жанчыну за рукаў паліто малы хлапчук.

– Што здарылася, Ігарок? – стомлена пытаецца яна.

– Дай шапну на вушка, – адказвае той і ціхенька нешта гаворыць, калі мама нахіляецца да яго.

– Пацярпі крышачку, зараз купім прадуктаў, а потым хуценька дамоў.

– Я моцна хачу! – ледзь не плача малы.

Жанчына ўздыхае і пачынае шукаць кагосьці з работнікаў магазіна. Неўзабаве яна ўбачыла дзяўчыну, якая нешта перакладвала на паліцах з рознымі крупамі.

– Паважаная, прабачце, ці ёсць тут у вас туалет? – пацікавілася мама Ігарка. – Малы захацеў, што ж зробіш...

– Ёсць, але ён толькі для супрацоўнікаў магазіна, нічым вам дапамагчы не магу, – паціскае плячыма дзяўчына і вяртаецца да сваёй працы.

– Шкада. Ігарок, ты пацярпі яшчэ крышку, хуценька дома ўжо будзем, – спрабуе супакоіць малога жанчына, расплачваецца на касе за прадукты і амаль бяжыць з сынам да кватэрнага туалета, каб, крый божа, не здарылася раптоўна «мокрая справа».

Згадзіцеся, што такую сітуацыю можна ўбачыць дастаткова часта. Ды і розныя выпадкі бываюць, хай гэта дзіцё ці дарослы чалавек. З фізіялогіяй не паспрачаешся.

Трапіць жа ў «маленькі белы пакой» бывае часам не проста складана, а нават немагчыма. Праўда, зусім нядаўна гэтае пытанне разгледзелі ў Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя. У выніку пастановай Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь ад 12 кастрычніка 2015 года былі ўнесены карэктывы ў дакумент «Гігіенічныя патрабаванні да зместу тэрыторый населеных пунктаў і арганізацый». Змены ў першую чаргу датычацца грамадскіх туалетаў.

Напрыклад, раней прыбіральні абавязкова павінны былі быць:

– на плошчах, у парках і скверах;

– на тэрыторыі рэкрэацыйных зон населеных пунктаў;

– на вакзалах, чыгуначных станцыях, аўтастанцыях, аэрапортах;

– аб'ектах культурна-забаўляльнага і спартыўнага прызначэння, а таксама на тэрыторыі, прылеглай да іх;

– на аўтазаправачных станцыях.

Цяпер да месцаў масавага знаходжання грамадзян, дзе абавязкова павінен быць доступ да грамадскага туалета, далучылі:

– тэрыторыі рынкаў;

– гандлёвыя і грамадска-гандлёвыя цэнтры;

– харчовыя крамы плошчай больш за 400 квадратных метраў;

– крамы з універсальным асартыментам нехарчовых тавараў, спецыялізаваныя і вузкаспецыялізаваныя крамы (у тым ліку «Мэбля», «Будаўнічыя матэрыялы») агульнай гандлёвай плошчай больш за 600 квадратных метраў.

І галоўнае – цяпер наведвальнікаў павінны пускаць у службовыя прыбіральні на аўтазаправачных станцыях, аб'ектах грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання, а таксама ў магазінах пры адсутнасці ў іх грамадскіх туалетаў.

Застаецца спадзявацца, што з многімі пытаннямі, якія датычацца «мокрых спраў», стане значна прасцей. Ігарок з матуляй, прынамсі, на гэта вельмі разлічваюць.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

## АФАРЫЗМЫ

### Бацькі і дзеці

Стаць бацькам зусім лёгка. Быць бацькам – наадварот, цяжка.

*Вільгельм Буш, нямецкі паэт і мастак*

Каму трапіўся добры зяць, той займеў сына, а каму дрэнны – той згубіў і дачку.

*Дэмакрыт, старажытнагрэчаскі філосаф*

Спачатку мы вучым сваіх дзяцей. Потым мы самі вучымся ў іх.

*Ян Райніс, латышскі паэт і драматург*

Бацькі менш за ўсё прабачаюць сваім дзецям тыя заганы, якія яны самі ім прывілі.

*Фрыдрых Шылер, нямецкі паэт, драматург*

Дзеці героя зусім не заўсёды бываюць героямі, яшчэ менш верагодна, што героямі стануць унукі.

*Ралф Эмерсан, амерыканскі філосаф і паэт*
















Фота Аляксандра ЗАЗУЛІ.






Дзеці ніколі не слухаліся дарослых, але затое заўсёды бралі з іх прыклад.

*Джэймс Болдуін, амерыканскі пісьменнік*

У бедных больш дзяцей, затое ў багатых больш сваякоў.

*Невядомы аўтар*

Калі б жонкі і мужы нараджалі па чарзе, ні ў адной сям'і не было б болей за трох дзяцей.

*Лорэнс Хаўсман, англійскі пісьменнік і мастак*

Як толькі дзеці робяцца паслухмянымі, матулям становіцца страшна — ці не паміраць яны сабраліся?

*Ралф Эмерсан, амерыканскі філосаф і паэт*



**Міхась СЛІВА**



## Не трэба хваляваццa

У магазіне.

– Дайце мне, калі ласка, кнігу скаргаў!

– А чым вы незадаволены?

– Тут вялізная чарга і марудна рухаецца.

– Не хвалюйцеся, па кнігу скаргаў чарга такая ж...

## На калдобінах лепш

Размаўляюць пасажыр і вадзіцель.

– Чым табе не падабаецца гэтая прамая, роўная, добра заасфальтаваная дарога?

– Едучы па ёй, я магу заснуць за рулём!



## «Шанцуе»

– Шанцуе нашаму Эдзіку, кожны дзень сустракаецца з начальнікам у кабінеце!

– Ага, той выклікае яго, каб даць нaганяй...




## Перастрахаваўся

Старшыня таварыства паляўнічых і рыбаловаў праводзіць інструктаж перад выездам на паляванне:

– Пры сустрэчы са мной вы абавязкова павінны разрадзіць свае стрэльбы!

## Эканомія

– Нешта вы вельмі часта мяняеце электралямпачкі ў сваім памяшканні...

– А яны ў нас энергазберагальныя: хутка перагараюць, даюць магчымасць эканоміць электраэнергію.

## Цыганка наваражыла

– Мой муж-нябожчык усё жыццё баяўся вады. Цыганка напрэдзіла, каб асцерагаўся вадкасці...

– І што, сапраўды патануў?

– Так, толькі не ў вадзе, а ў гарэлцы!

## Як вавёрка ў коле

Размова паміж сяброўкамі.

– Нешта ты, Наташа, зусім схуднела!

– Муж прыехаў з заробкаў на пабыўку, дык цэлымі суткамі кручуся як тая вавёрка ў коле: удзень – на працы, увечары – на кухні, а ноччу – у спальні.

## Жартаўнікі

– Навошта ты булку жуеш? Ужо абед на носе!

– А ў мяне нос доўгі, яшчэ прагаладаюся.




## Шкадаванне

– Гэта ж трэба, колькі я награшыў за сваё жыццё! – узрушана, са шкадаваннем гаворыць знаёмаму Захар Антонавіч. – А мог жа яшчэ больш...

*г. Рагачоў.*

---

**ВЯЛІКІЯ ЖАРТУЮЦЬ...**

## Каханне і слёзы




Аднаго разу жонка Жана дэ Лафантэна ўбачыла мужа ў слязах. Ён моцна плакаў, седзячы за рабочым сталом. Калі яна спытала, што здарылася, пісьменнік замест адказу прачытаў раздзел са сваёй аповесці, у якой герой аніяк не мог адолець перашкоды і ажаніцца з каханай.

Жонка Лафантэна таксама расплакалася і папрасіла мужа:

– Дык злучы яго з каханай.

– Не магу! – адказаў той. – Яшчэ толькі першы том пішу.

## Ільф ці Пятроў?

Неяк Ільфа і Пятрова спыталі, ці даводзілася ім пісаць пад псеўданімам.

– Канечне! – адказалі яны. – Часам Ільф падпісваўся Пятровым, а Пятроў – Ільфам.

## Іграюць і гуляюць

Аднойчы Бернард Шоу зайшоў у рэстаран, дзе іграла занадта гучная музыка. Ён паклікаў да сябе метрдатэля і спытаў:

– Вашыя музыканты могуць сыграць усё, што заўгодна?

– Вядома, сэр!

– Тады перадайце ім гэтыя грошы і папрасіце, каб яны паўгадзіны пагулялі ў покер.






Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

# ПАКУЛЬ НЕ ПОЗНА...




Нагамі ён круціў васьмёркі,
Наперад крок, а два — назад.
І «піруэтаў» рабіў столькі,
Што б пазайздросціў акрабат.
То падвываў, нібы сабака,
То нешта спрабаваў спяваць,
То рагатаў, то моцна плакаў,
Нібы дзіця — ні даць ні ўзяць.

Слупы ён абдымаў няўклюдна
Ды прыціскаў іх да грудзей.
Яшчэ і лаяўся прылюдна,
Нат не саромеўся дзяцей.
Чаму ж на «п'яную» дарогу
Ён збочыў, што на ёй шукаў?
Адно вядома: шмат благога
На гэтай сцежцыназбіраў.
Яшчэ не позна перайначыць
Жыццё на цверазейшы лад.
Не п'янстваваць і не лайдачыць,
Ісці наперад, не назад!

**Аляксей РУСІНОВІЧ,**
*Светлагорскі раён,*
*в. Пятровічы.*

# Даруй...

Пабегла жонка зранку на работу.
Муж быў у адпачынку — не гуляў:
За справы гаспадарчыя з ахвотай
Узяўся ён, бо любай абяцаў.

Схадзіў у магазін, прынёс дзве торбы
Прадуктаў розных, нарабіў катлет.
Пліту памыў, пацёр каструлі добра.
Пасля усеўся на веласіпед,

Ў ветклініку вусатага Машэку
Звазіў (ой, не хацеў лячыцца кот!).
Дык на шляху зваротным у аптэку
Заехаць мусіў — па бінты і ёд.

Затым, апрацаваўшы свае раны,
Машэку венікам пад стол загнаў.
Бялізну ў ваннай перамыў старанна,
Панішчыў моль і пыл павыціраў.

Пачысціў дываны, памыў падлогу
І на балконе шыбіну зашкліў.
Зваліўся на канапу ад знямогі,
У офісе працоўны дзень прысніў.

Зайшла пад вечар жонка у кватэру,
Таму, што бачыць, веры не дае:
Усюды чыста, на пліце — вячэра,
Букет вяргінь у вазе на стале.

З пяшчотай ноччу туліцца да мужа:
«Каханы мой...», уся агнём гарыць.
Той уздыхнуў і вымавіў натужна:
«Даруй, мне сёння галава баліць».

**Надзея НЕСЦЯРОНАК,**
*г. Мінск.*




Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.

# Пра жаночы дакор і чароўны прыбор




Настрой выдатны: кніга выйшла з друку.
Паеду ў выдавецтва забіраць!
Маршрутка хутка. Сумачку у рукі –
І на прыпынак, каб яе чакаць.

Пад'ехала у той жа час машына.
Вітаюся, але шафёр маўчыць.
«Дзень добры» кінуў нехта з пасажыраў...
У цішыні аўто стралой на Мінск імчыць.

Ды тут, сябры, дзівосы пачаліся:
Шафёр таксі у рукі ўзяў планшэт –
І на рулі два пальцы засталіся,
Астатнія ж палезлі ў інтэрнэт.



Машына па дарозе завіхляла,
Ў салоне ажно войкнула дзіця.
Я «штурману» ні слова не сказала,
Падумала: «Які ж ты разгільдзяй!»

За Слуцкам ён планшэт паклаў на месца,
Затое пачак з семкамі дастаў.
Я выйшла б, ды куды было падзецца?
А той спакойна лузгаў ды пляваў.

Сачыў бы лепш вадзіцель за дарогай!
Ды не: схапіў мужчына тэлефон,
Так гучна лаяў нейкага нябогу,
Нібы ў машыне едзе толькі ён.



Дабраліся нарэшце да сталіцы,
Настрой паганы. Прэч хутчэй з салона!
З шафёрам не хацелася сварыцца,
Бо нораў ужо ўбачыла ягоны.

Нагадаў, пэўна, менш было б злавацца,
Каб кожнай фірмы транспартнай начальнік
Ўжываў, калі прыём рабіў на працу,
Прыбор цудоўны – хамстваўвымяральнік.

**Валянціна БАБКО-АЛЯШКЕВІЧ,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*

# Ода гармоніку

Ва ўсе часы на Беларусі
(У гэтым я не памылюся)
Гармонік наш народ любіў –
Ад суму ён збавеннем быў.
Ці ж нам, сябры, таго не ведаць:
Пачуць гармонік – як паснедаць,

А родны гук яго гаючы
І ў сто гадоў не надакучыць.
Пачуўшы кнопак пераборы,
Ураз паздаравее хворы.
Любы музыка гарантуе:
Ён лепш за доктара ратуе,

Бадзёрыць, весяліць, малодзіць –
У танцы ногі спрытна ходзяць!
Па праўдзе кажучы, паверце,
Гармонік нам не дасць памерці!

**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

---

## АФАРЫЗМЫ

### Здароўе

Ежа, якая не засвойваецца, з'ядае таго, хто яе з'еў.

*Абу-ль-Фарадж, арабскі паэт і вучоны*

Існуюць тысячы хвароб, але здароўе бывае толькі адно.

*Карл Людвіг Бёрнэ, нямецкі публіцыст і крытык*

Калі не бегаеш, пакуль здаровы, давядзецца пабегаць, калі захварэеш.

*Флак Квінт Гарацый, старажытнарымскі паэт*

Здароўе – гэта калі кожны дзень баліць у іншым месцы.

*Амерыканскае выслоўе*

Сорамна прызнацца, але з усіх жывых істот адзін толькі чалавек не ведае, што для яго карысна.

*Пліній Старэйшы, рымскі пісьменнік*

Галоўныя медыкаменты – гэта чыстае паветра, халодная вада, піла і сякера.

*Васіль Паленаў, рускі мастак*






# «ЭХ, ДАРОГІ!..»

Добры дзень, калючы сябра!

Хвілін пяць стаяў я каля гэтага святлафора на праспекце Пушкіна, нават ледзь на працу не спазніўся. У галаве блукала думка: «Ну і пажаданне пешаходам — «Будзьце». Ці не падобна больш на «Бывайце»?»




Але вырашыў не выпрабоўваць лёс і ціхенька, акуратна перайсці дарогу...

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*

Прывітанне, дружа Вожык!

Я заўсёды лічыла Мінск вельмі ціхім і бяспечным горадам. Колькі сябе памятаю, ён штораз падаваўся мне неверагодна спакойным. А ў восеньскую ці зімовую пару яшчэ і па-прыемнаму санлівым.



Цалкам я ўпэўнілася ў гэтым, калі ўбачыла вось такі знак на вуліцы Мельнікайтэ. Нават ён на ноч укладваўся спаць, што ўжо казаць пра звычайных людзей, якія спяшаюцца дамоў, у цёплы ложак, пад мяккую коўдру.

**Ксенія ПІЎНЕВА,**
*г. Мінск.*



Шаноўны сябар Вожык!

Мне вельмі падабаецца, што з цягам часу на сталічных вуліцах з'яўляецца разметка для веласіпедыстаў. Так нашмат прасцей арыентавацца не толькі тым, хто круціць педалі, але і тым, хто рухаецца пешшу. Аднак калі я ўбачыў разбітую дарогу па вуліцы Лабанка, то падумаў, што тут гэтая зручнасць залішняя: па такім месцы ні пешаход не пройдзе, ні веласіпедыст не праедзе.

**Арон МЫСЛЯК,**
*г. Мінск.*

---

Чалавек любіць пагаварыць пра свае хваробы, а між іншым, гэта самае нецікавае ў яго жыцці.

*Антон Чэхаў, рускі пісьменнік*

Рабіце высновы пра сваё здароўе па тым, як вы радуецеся раніцы і вясне.

*Генры Дэйвід Тора,*
*амерыканскі пісьменнік і філосаф*

Надзея — лепшы ўрач з усіх, якія мне вядомыя.

*Аляксандр Дзюма-бацька, французскі пісьменнік*

Тысячы рэчаў неабходныя здароваму, і толькі адна хвораму: здароўе.

*Ірына Вільдэ, украінская савецкая пісьменніца*

У маладосці чалавек траціць сваё здароўе на тое, каб зарабіць грошы, а ў старасці траціць грошы, каб выкупіць здароўе, але нікому гэта пакуль не ўдавалася.

*Індыйскае выслоўе*




Адзіны спосаб захаваць здароўе — гэта есці тое, чаго не хочаш, піць тое, што не любіш, і рабіць тое, што не падабаецца.

*Марк Твэн, амерыканскі пісьменнік*




# А. Макаёнак — 95!

Сёлета ў лістападзе спаўняецца 95 гадоў з дня нараджэння **Андрэя МАКАЁНКА (1920 — 1982)**, выбітнага драматурга і сцэнарыста, чые шматлікія сатырычныя п'есы застаюцца надзвычай актуальнымі і сёння. Чатыры гады жыцця Андрэй Ягоравіч правёў поруч з «Вожыкам»: з 1949 па 1953 год ён працаваў у часопісе загадчыкам аддзела прозы.

Прапаноўваем вам разам з аўтарам вярнуцца ў тыя далёкія часы, зазірнуць у творчую лабараторыю храма навукі і, вядома ж, усміхнуцца.




*(У скарачэнні)*

...Нікансор Пталемеевіч Тупагузкін падыходзіць да дзвярэй і, разгладзіўшы далонямі рэдкія валасы на галаве, урачыста паварочвае ключ і паважна заходзіць у кабінет. Сеў на крэсла, паклаў перад сабой стопку паперы і задумаўся.

Праз некалькі хвілін заходзіць другі вучоны, таварыш Куцапернік. Каб не спалохаць навуковую думку калегі, ён прывітаўся лёгкім нахілам галавы. Сеўшы на сваё крэсла, другі вучоны таксама палажыў перад сабою горку паперы і, палашчыўшы густую з рыжымі кудзеркамі шавялюру, таксама задумаўся. Сядзелі яны спіной да спіны, утаропіўшыся адзін у адну, а другі ў другую сцяну.

Удосталь падумаўшы, вучоны з кучаравай галавой ціха зазначыў:

– Так... так...

Вучоны з рэдкімі валасамі на галаве гэткім-жа тонам сказаў:

– Не... не...

Кучаравая галава павярнулася налева і спытала:

– Што значыць «не»?

Рэдкавалосая галава павярнулася направа і ў сваю чаргу пацікавілася:

– А што значыць ваша «так, так»?

– Я сказаў так сабе, мой дарагі калега. А вы?

На твары рэдкавалосага вучонага паказалася ўсмешка.

– І я сказаў не вам...

Абодва вучоныя ізноў задумаліся, схіліўшыся кожны над сваёй паперай.

У рэдкавалосага ў якасці каталізатара працэсу мышлення былі папяросы, таму ён хутчэй скеміў, што калега даў няяснае тлумачэнне свайму «так». У густавалосага нічога не было. Рашыць такую складаную загадку было аднаму не пад сілу, і густавалосы звярнуўся да калегі:

– Усё-такі, чаму вы сказалі «не»? Вы што-небудзь адмаўляеце ў мяне?

Калега запярэчыў:

– Што вы, што вы! Калі вы заўважылі, я сказаў два «не». Калі б паміж імі я паставіў коску, дык у такім выпадку гэта было б катэгарычным адмаўленнем. А гэта – нішто іншае, як сцвярджэнне.

Таварыш Куцапернік пакасіў вочы на каварную патыліцу калегі. І, о жах! Першы раз за дні сумеснай працы ён убачыў, что Тупагузкін нешта піша. «Заяву!» – ёкнула сэрца.

– Я ўсё-такі раней напішу! Выкрыю гэтага ілжэвучонага, які нічога каштоўнага для навукі не прыдумаў...

А рэдкавалосы нічога падобнага не падазраваў. Ён проста трэніраваўся распісвацца. Заўтра-ж дзень выплаты зарплаты.

*«Вожык», № 18, 1952 г.*

## ВЯЛІКІЯ ЖАРТУЮЦЬ...

### Абмен кампліментамі




Альберт Эйнштэйн аднаго дня напісаў Чарлі Чапліну:

– Я ў захапленні ад вас! Ваш фільм «Залатая ліхаманка» зразумелы ва ўсім свеце, вы, безумоўна, станеце вялікім чалавекам!

Чаплін адказаў:

– Я ад вас яшчэ ў большым захапленні! Вашую тэорыю адноснасці ніхто ў свеце не разумее, але вы ўсё роўна сталі вялікім чалавекам!

### Непастаянны слуга

Аляксандр Дзюма пісаў «Трох мушкецёраў» для газеты. За працу пісьменніку плацілі парадкова. (Гэта значыць, што за кожны радок Дзюма атрымліваў ганарар.) Каб пабольш зарабіць, аўтар прыдумаў мушкецёру Атосу нешматслоўнага слугу, які размаўляў аднаскладова:

– Так!

– Не!

Калі Дзюма пісаў «Праз дваццаць гадоў», яму плацілі ўжо за колькасць слоў. Тады слуга Атоса стаў больш гаваркім...



# У. Караткевіч — 85!

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ (1930 — 1984)** быў пісьменнікам шматграннага таленту, праявіў сябе ў самых розных жанрах. І, як вядома, не абмінуў увагай і гумарыстычную ніву. Сам ён быў цікавым і дасціпным апавядальнікам, любіў вясёлае слова. Пісаў пароды, жарты, экспромты... Сёння мы прапануем узгадаць некаторыя гумарыстычныя вершы слыннага творцы, якому споўнілася б 85 гадоў.

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## Заяц варыць піва



Туман плыве з нізіны сівы
Над нівай голай і пустой.
«Глядзіце, заяц варыць піва», –
Жартуюць людзі між сабой.
А я відушчым бачу зрокам,
Як ён прысеў каля агню,
Трыгубы, шэры, касавокі,
І піва варыць з ячмяню.
Яліна іскрамі страляе,
А ён прыладзіў кацялок
І трэскай варыва мяшае,
Каштуе, сплёўвае набок.
І піва заяц зварыць густа,
А на закуску – бурачок,
Трава, заечая капуста,
Галін асінавых пучок.
З зайчыхай вып’юць па маленькай
І дзеткам трошкі паднясуць,
Пужлівым галаскам таненькім
«Цвіцела морква» завядуць.
Пабачыш – не гані з абсады,
Дай хоць на гэты дзень спакой,
Павінна ж быць і ў зайца радасць
Перад халоднаю зімой.

## У жніўны дзень

*(Жарт)*

Ў жніўны дзень на вуліцы бязлюдна.
Нават бэз заснуў каля дзвярэй.
Толькі певень, млявы і марудны,
Кліча частаваць сваіх курэй.
Бабка спіць ля хаты пад кустамі,
І цялё чырвонае усмак
Мокрымі ружовымі губамі
Ёй жуе стракаты андарак.
І старыя, і малыя ў полі,
Суха звоняць конікі ў траве,
І камбайн, як карабель вясёлы,
Паміж жытніх каласоў плыве.
Ну, а вёска цішынёй абнятая.
Толькі й чуць у гэтай цішыні,
Як храпуць у дзвюх суседніх хатах
Жонкі брыгадзіра й старшыні.

## Адносна паходжання бюракратызму

Пітэкантрап пячору зручную выбраў,
Стол знадворку прысунуў да тоўстай сцяны
І павесіў таблічку: «Пячорным тыграм
Час прыёму тады, як вымруць яны».

## Склероз

У яго быў склероз – ну чыстае гора!
Але ён быў мужны і не паддаваўся:
Кожны дзень забываў ён, ці піў учора,
І, на ўсякі выпадак, апахмяляўся.




*Караткевіч У. Збор твораў: У 8 т. Т. 1. Вершы, паэмы / Мн., 1987 г.*




Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Зіма прыйшла даволі рана,
Ва ўбранні снежным лес застыў.
Пад галалёдзіцай схаваны
Дарожкі-сцежкі і масты.

У краму дзед сабраўся ехаць
(Далёка з жонкаю жылі).
Круціць педалі крыху лепей,
Чым соўгаць ногі па зямлі.

Хоць слізка — сеў стары на ровар,
Спяшаць яму няма куды.
Мінуў паволі ён дуброву,
Глядзіць — аўтамабіль ДАІ.

— Куды трымаеш шлях, нябога?
Жыццё — адно, і ты — адзін.
Не бачыш — коўзкая дарога.
Пад колы трапіць — пяць хвілін!

Застыў наш дзед у аняменні,
Такога не чакаў ніяк.
Ад страху аж дрыжаць калені,
Пад горла падступіў камяк.

— Даруй, ты правілы парушыў,
Сур'ёзны, скажам так, «пракол».
Цябе аштрафаваць я мушу... —
І ўжо складае пратакол.

Даішніка дзед угаворваў,
Каб не плаціць, але дарма.
Што ж, страціць грошы —
шчэ не гора,
Магла быць іншая бяда...

Цяпер дзядуля пешшу ходзіць,
Пакуль зіма не йдзе на спад.
Ён тым і грошы эканоміць,
І пазбягае іншых страт...

**Аляксандр МАТОШКА,**
*Віцебская вобласць,*
*г. п. Расоны.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Калаж Міколы ГІРГЕЛЯ.

## АФАРЫЗМЫ
### Жанчыны, мужчыны

Жанчына смяецца, калі можа, і плача, калі хоча.

*Жан Антуан дэ Баіф, французскі паэт*

Хто здольны кіраваць жанчынай, здольны кіраваць дзяржавай.

*Анарэ дэ Бальзак, французскі пісьменнік*

Мужчына захоўвае чужую таямніцу лепш, чым уласную, а жанчына лепш захоўвае сваю, чымсьці чужую.

*Жан дэ Лабруер, французскі пісьменнік*

Існуюць тысячы хітрыкаў, каб прымусіць жанчын загаварыць, але няма ніводнай, каб прымусіць іх замаўчаць.

*Гіём дэ Бушэ, французскі пісьменнік*



У памылцы любой жанчыны ёсць віна мужчыны.

*Іаган Гердар, нямецкі філосаф і пісьменнік*

Самая моцная вада ў свеце — жаночыя слёзы.

*Джон Морлі, англійскі дзяржаўны дзеяч*

**Андрэй СІДАРЭЙКА**

# Жонка на гадзіну

*Гумарэска*



Аднойчы Антось праглядаў газету і заўважыў на апошняй старонцы аб'яву. Нейкае бюро прапаноўвала патэлефанаваць ім і запрасіць да сябе мужа на гадзіну, які выканае хатнія справы і пазбавіць гаспадыню ад клопатаў.

– Бач ты! – усміхнуўся Антось, закаранелы саракагадовы халасцяк. – Цяпер нават муж на гадзіну ёсць. А жонка?

Ён падышоў да тэлефона, набраў патрэбны нумар: «Зараз пабачым, што такое быць жанатым».

Пачуўся жаночы голас:

– Дзень добры. Вы штосьці хацелі?

– Так, так, – загаварыў Антось. – Я па аб'яве тэлефаную. Тут сказана, што можна заказаць мужа на гадзіну.

– Але.

– Толькі мне муж не патрэбны. Жонку хацеў бы...

На другім канцы проваду ўсё сціхла. А потым той жа прыемны галасок адказаў:

– Такіх паслуг мы не прапаноўваем. Але для вас зробім выключэнне.

Дамовіўшыся аб кошце і прызначыўшы час, Антось пачаў чакаць другую палавінку. Ён думаў, якія хатнія справы задасць «каханай-родненькай», хоць яна мусіла быць такой усяго адну гадзіну.

Нарэшце ў кватэру пазванілі – і Антось пабег да дзвярэй. На парозе стаяла нафарбаваная, модна апранутая маладая жанчына.

– Вы выклікалі жонку на гадзіну?

– Так.

– Ну вось і я, каханенькі! – амаль праспявала жанчына і адразу ж па-гаспадарску пайшла разглядваць кватэру. – Падкажы, калі ласка, колькі мы ўжо жывём у шлюбе?

Антось уключыўся ў гульню.

– А хіба ты не памятаеш, даражэнькая? – пачаў ён гаварыць у такт незнаёмцы. – Гадкоў, мабыць, каля дваццаці.

– Ага. Чаму ж ты тады, дарагі муж, не прыбраў у кватэры? Відаць, увесь гэты час чакаў мяне, седзячы на канапе?



Працяг на стар. 16.



Калі мужчына і жанчына безупынку сварацца, значыць, адно з двух – альбо яны горача любяць адзін аднаго, альбо не могуць адзін аднаго цярпець.

*Фернан Кабальера, іспанская пісьменніца*

Самая неразумная жанчына можа справіцца з разумным мужчынам, але з дурнем справіцца толькі самая разумная.

*Рэд'ярд Кіплінг, англійскі пісьменнік*

Жанчыны ніколі не бываюць такімі моцнымі, як калі яны ўзбройваюцца слабасцю.

*Іван Бунін, рускі пісьменнік*

У жанчын усё – сэрца, нават галава.

*Жан Поль, нямецкі пісьменнік*

Мужчынам жывецца нашмат лепш, чым жанчынам: па-першае, яны пазней жэняцца, па-другое, раней паміраюць.

*Генры Менкен, амерыканскі крытык і публіцыст*

Большасць мужчын любіць ліслівасць з прычыны сціплай думкі пра сябе, большасць жанчын – па супрацьлеглай прычыне.

*Джонатан Свіфт, англійскі пісьменнік*

Заканчэнне. Пачатак на стар. 15.

— А як жа! — радасна адгукнуўся Антось. — Вось, думаў, прыйдзе родненькі чалавек, згатуе абед, памые бялізну, прыбярэ...

— Ты што, зусім з глузду з'ехаў? Гэта толькі маладая жонка на такое здольная! А пасля дваццаці гадоў сумеснага жыцця жанчыне, якая выхавала тваіх дзяцей, патрабуецца цішыня. Зразумела?

— Якіх яшчэ дзяцей? — здзівіўся Антось.

— Тых, што ўжо выраслі і недзе гуляюць самі па сабе. Ну, хопіць слоў. Сёння ў мяне добры настрой. Так і быць, памыю табе бялізну і згатую абед. У нас пральная машына ёсць?

— Ёсць, — адказаў Антось.

— Пакладзі ў яе сваю брудную вопратку, насып парашку і націсні на кнопку, — загадала «жонка».

Новаспечаны «муж» усё выканаў.



— Калі машына спыніцца, не забудзься развесіць адзенне на балконе.

— А што ў нас сёння на абед?

— Паколькі мы з табой на дыеце, то мюслі і зялёная гарбата. Калі гэтага няма, сходзіш у краму і купіш. Так, цяпер твая чарга выконваць сямейныя абавязкі. Памый падлогу, выбі і прапыласось дываны. І не шумі, калі ласка. Не перашкаджай мне размаўляць з сяброўкамі па тэлефоне.

— Што, усе мужчыны так робяць? — удакладніў Антось.

— Пасля дваццаці гадоў сумеснага жыцця — усе. Нават не сумнявайся ў гэтым, каханенькі, — прашчабятала «жонка».

За гадзіну Антось выбіў усе дываны, прапыласосіў іх, памыў падлогу ў кватэры. А яшчэ збегаў у краму і набыў для «палавінкі» мюслі, зялёную гарбату, якую сам ніколі не піў, а сабе купіў пельмені: адзін дзень ён можа абысціся і без дыеты. «Жонка» ж увесь гэты час гутарыла з сяброўкамі па тэлефоне.

Пасля абеду, збіраючыся сыходзіць, яна ўздыхнула:

— Ой, замарылася я ў цябе, каханенькі. Зусім не цэніш ты мяне. Гэта ж трэба: адно і тое ж — прыгатуй, памый, прыбяры... І так дваццаць гадоў! Але нічога не зробіш. Калі будзе жаданне, тэлефануй яшчэ: на трыццацігоддзе сумеснага жыцця, напрыклад. Бывай!

Нягледзячы на тое, што Антось замарыўся, як ніколі, у душы ён быў шчаслівы.

— Усе знаёмыя даўно жывуць з жонкамі. Мне ж пашанцавала: пабыў мужам толькі адну гадзіну!

Больш такой паслугай Антось не карыстаўся.

*Рэчыцкі раён,*
*в. Каравацічы.*

---

## ВЯЛІКІЯ ЖАРТУЮЦЬ...

### Чытайце Біблію!

Аднойчы рэпарцёр браў інтэрв'ю ў Томаса Эдзісана.

— Скажыце, сэр, — спытаў ён знакамітага вынаходніка, — гэта ж вы стварылі першую ў свеце машыну, якая ўмее размаўляць?

— Не-не, — спешна адказаў Эдзісан. — Першая такая машына з'явілася вельмі даўно. Калі казаць па сутнасці, яна была створана яшчэ ў біблейскія часы... — вытрымаўшы паўзу, ён з асцярогай азірнуўся і, нахіліўшыся да рэпарцёра, шэптам дагаварыў: — ...з рабра Адама!

### Розныя тры

Некалі Сафокл сказаў, што нядаўна напісаныя ім тры вершы каштавалі яму трох дзён упартай працы.

— Усяго толькі! — усклікнуў адзін бяздарны паэт. — Ды я за гэты час напісаў бы сто.

— Але яны існавалі б толькі тры дні, — адказаў Сафокл.





Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




• Дзіўна: нехта палец аб палец не ўдарыць, а пра яго кажуць, што ён ад рук адбіўся.

• У жыцці адзін творыць, а другі — вытварае.

• Калі ў чалавека воўчы апетыт, то ён з'есць зайца за мілую душу.

• Які поп, такі і прыход. Які гід, такі і паход.

• Ісціна жыцця: дзяўчына лёгкіх паводзін рана ці позна рызыкуе апынуцца ў цяжкім становішчы.

• І птушка высокага палёту можа нізка апусціцца.

• Часам і для светлай галавы надыходзяць чорныя дні.

• Нават той, хто ўстаў не з той нагі, урэшце абсядзе.

• Бывае вока за вока, зуб за зуб, а бывае і з рук у рукі...

• Іншы быццам і выйдзе ў людзі, а чалавекам не стане.

• Слушная парада: лепш не трапляць пад гарачую руку шэфу, які ўстаў не з той нагі.

• Пакуль шукаў лепшае месца, згубіў... сумленне.

• Асоба са светлай галавой не займаецца чорнымі справамі.

• Нехта шукае выхад са складанай сітуацыі праз чорны ход.

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**— Адзінае, што ты сёння зловіш, — рэўматызм!**




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.






## ТАТА, МАМА, Я — ВЯСЁЛАЯ СЯМ'Я!

*Сёння «Вожык» у чарговы раз знаёміць чытачоў з новым аўтарам. І гэта не адзін чалавек, а цэлая сям'я! Так-так, вашай увазе прапануецца «творчасць» Ані і Мішы Іонавых, запісаная іх бацькам Максімам Уладзіміравічам. Калі дзеці былі ва ўзросце ад двух да шасці гадоў, тата занатоўваў выказванні і розныя смешныя выпадкі з жыцця сваіх спінагрызаў. У выніку атрымаліся мініяцюры, прасякнутыя добрым, жывым, непасрэдным гумарам.*

*Максім Іонаў нарадзіўся ў Ташкенце, там жа скончыў аграрны ўніверсітэт і аспірантуру пры Інстытуце біяарганічнай хіміі Акадэміі навук Рэспублікі Узбекістан. Пасля пераехаў у Польшчу. Зараз працуе дацэнтам факультэта біялогіі і аховы навакольнага асяроддзя Лодзінскага ўніверсітэта, спецыялізуецца на медыцынскай біяфізіцы. Нядаўна абараніў доктарскую дысертацыю. Ажыццяўляе сумесныя праекты з беларускімі вучонымі, таму часта бывае ў Мінску. Прызнаецца, што сталіца Беларусі – адзін з самых любімых гарадоў свету.*

*Артыкулы дацэнта Іонава друкуюцца ў прэстыжных замежных выданнях, аднак яго душа ляжыць не толькі да навукі, але і да мастацкай літаратуры. Захапляецца ўсходняй паэзіяй, у прыватнасці – творчасцю Амара Хаяма. Любіць музыку, падарожжы, адпачынак на прыродзе з сям'ёй і, вядома ж, гумар. Стараецца далучыць да мастацтва дзяцей, якія цяпер падраслі, вучацца ў школе і займаюцца музыкай: Аня іграе на піяніна, Міша – на гітары.*

*Немагчыма схаваць усмешку, чытаючы дзіцячыя жарты. Сям'я Іонавых дзеліцца з вамі, шаноўныя чытачы, сваім гумарам і жадае, каб добры настрой быў пастаянным госцем у кожным доме.*




Шасцігадовы Міша лашчыцца да маці. Яго малодшая сястра Аня, убачыўшы гэта, незадаволена кажа:

– Міша, мама мая! Ідзі вунь тату нянчы...

* * *

Анечка ўбачыла бутэльку з кефірам, на якой былі намаляваны трава і кветкі. Глядзела-глядзела і пасля невялікай паўзы выдала:

– Ну, і дзе карова?



## АФАРЫЗМЫ

### Узрост

Маладыя людзі мараць. Старыя згадваюць.

*Луі Арагон, французскі пісьменнік і грамадскі дзеяч*

Ніхто не жадае старасці, але ўсе хочуць доўга жыць.

*П'ер Буаст, французскі лексікограф*

Юнацкія заганы не варта захоўваць да старасці, таму што старасць прыносіць свае.

*Іаган Вольфганг Гётэ, нямецкі паэт*

Юнак шукае шчасця ў непрадбачаным, стары – у звыклым.

*Поль Курці, французскі паэт і журналіст*

Які малы прамежак паміж часам, калі чалавек зусім малады і калі ён ужо зусім стары!

*Шарль Мантэск'ё, французскі пісьменнік*



* * *

Аня заўважыла, што бацька ў ванным пакоі чысціць нос і збіраецца галіцца.

– Татка, ты ў нас смаркаты вожык!

* * *

Да нас у госці прыехала цешча. Жонка пастрыгла і пафарбавала ёй валасы. Аня вырашыла зрабіць камплімент:

– Бабуля! Ты цяпер не бабуля, а сапраўдная цёця...




* * *

Аня ўвесь вечар гуляла з братам, а калі мама паклала яе ў ложак, доўга не магла заснуць.

– Мама, я не хачу спаць! Я хачу ўстаць і шнырыць па кватэры.



* * *

Міша вярнуўся з дзіцячага садка. На пытанне, што ён там сёння рабіў, хлопчык насупіўся і адказаў:

– Сядзеў ды памоўчваў.

* * *

– Я сёння ў садок не пайду, – заявіла Аня.

– Чаму, дачушка?

– У мяне талія баліць.

* * *

Дачцэ захацелася смачных маміных кексаў.

– Мамачка, ты толькі замясі цеста, дастань формачкі, запалі духоўку і пячы. А я пасля памыю посуд, і табе, лічы, увогуле нічога рабіць не трэба!

* * *

Разважанні пяцігадовай Ані:

– Час мне ўжо мужа добрага знайсці. Каб быў выхаваны, не бегаў па кватэры. І для сяброўкі Мірэнкі таксама трэба. Будзем разам мандарынкі есці...

* * *

– Дачушка, а чаго ты раніцай плакала?

– Мы з Мішам гулялі ў небяспечную гульню. Ён хацеў мяне ўкусіць, а я ў гэты час выпадкова стукнула яго нагой па твары, два разы. Ад гэтага мне стала сумна і вельмі крыўдна...



* * *

Аня раніцай прыбегла да таты і расказвае:

– Учора ў школе малявала чайнік, а атрымалася свінка. Ну, нічога, падумала я, дамалявала ножкі і хвост – выйшаў вожык!

**Даслаў Максім ІОНАЎ,**
*г. Лодзь (Польшча).*






Старасць надыходзіць, калі чалавек пачынае гаварыць: «Ніколі я не адчуваў сябе такім маладым».

*Жуль Рэнар, французскі пісьменнік*

Мы старэем, але гэта адзіны спосаб доўга жыць.

*Даніэль Абэр, французскі кампазітар*

Магчыма, маладосць – загана, але тая, што занадта хутка вылечваецца ўзростам.

*Джэймс Расэл Лоўэл, амерыканскі паэт, крытык і публіцыст*

Старое ніколі не старэе, старэе толькі новае.

*Фрыдрых Рукерт, нямецкі паэт*

Малады чалавек, які ніводнага разу не плакаў, – дзікун, а стары, які не смяецца, – дурань.

*Джордж Сантаяна, амерыканскі філосаф*

Ніхто не адчувае, як праходзіць маладосць, але ўсялякі заўважае, калі яна ўжо прайшла.

*Сенека Малодшы, рымскі пісьменнік, філосаф і палітычны дзеяч*

## Навіны з МУС: матай на вус…

### Як у мульціку…

**Трое злачынцаў без пэўнага месца жыхарства праламалі сцяну і залезлі ў гараж мазыраніна. Але збегчы з месца злачынства атрымалася не ва ўсіх.**

Часам здараецца так, што гісторыі з дзіцячых мульцікаў увасабляюцца ў рэальнасць. Калі трое мужчын апынуліся ў чужым гаражы, то вырашылі пажывіцца гаспадарскімі нарыхтоўкамі на зіму – кансервацыяй і іншымі прадуктамі. Яны паспелі ўжо добра падсілкавацца рознымі прысмакамі, калі туды раптоўна завітаў гаспадар. Зразумела, што няпрошаныя госці адразу кінуліся наўцёкі. Праз дзірку ў сцяне атрымалася вылезці двум злодзеям, а трэці… захраснуў.

Няўдаліцу затрымалі супрацоўнікі Дэпартамента аховы Мазырскага РАУС. Крыху пазней міліцыянеры знайшлі і астатніх гаражных візіцёраў. Зараз матэрыялы справы перададзены ў Мазырскі раённы аддзел Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь, каб распачаць крымінальную справу.

Як гаварылася ў мульціку пра Віні-Пуха: «Усё з-за таго, што нехта празмерна многа еў!»…

### «Слізкая» сцежка

**Пенсіянерка з Гродна дала прытулак у сваім доме былому злодзею. А той украў у яе каля дзесяці антыкварных рэчаў.**

Існуе меркаванне, што чалавек, ступіўшы на «слізкую» сцежку, ужо ніколі з яе не сыдзе. Але жыхарка Гродна не пагадзілася з гэтай думкай і вырашыла даць яшчэ адзін шанец на нармальнае жыццё мужчыну, што нядаўна выйшаў з турмы. Так як яму не было куды ісці, жанчына дазволіла пажыць у сябе ў кватэры.

Толькі ён не ацаніў такой дабрыні і ў хуткім часе ўкраў у гаспадыні спіртное, камінны гадзіннік, статуэткі, фотаапараты і антыкварны фотаальбом, які злачынцу ўдалося прадаць гомельскаму калекцыянеру за 18 мільёнаў рублёў. Пасля гэтага мужчыну затрымалі супрацоўнікі крымінальнага вышуку Савецкага РАУС горада Гродна. Зламысніку пагражае да двух гадоў зняволення. «Слізкая» сцежка зноў прывяла яго ў турму.

### Добрая і дрэнная навіна

**За здзяйсненне грабяжу супрацоўнікі сталічнага аддзела крымінальнага вышуку Савецкага РУУС Мінска затрымалі двух мужчын.**

Калі ты дзелішся з кімсьці добрымі навінамі, то ў адказ чакаеш пачуць віншаванні. Але так бывае не заўсёды.

Папрасіўшы на вуліцы ў двух незнаёмцаў тэлефон, мужчына з дапамогай інтэрнэту даведаўся, што выйграў пяць мільёнаў рублёў. (Зрабіў стаўку на перамогу футбольнага клуба і не прагадаў.) Шчаслівчык адразу падзяліўся добрай навіной са сваімі памагатымі. Тыя ж прапанавалі адзначыць такое шанцаванне і выпіць гарэлкі. Усе разам накіраваліся ў бліжэйшы магазін.

Але калі зайшлі за вугал дома, адзін з іх ударыў новага знаёмага. Другі ж выхапіў сумку, у якой знаходзіўся пашпарт, мабільны тэлефон, адзін мільён рублёў і квіток на атрыманне выйгрышу, і разам са сваім сябрам пабег прэч.

Зараз у дачыненні да злачынцаў узбуджана крымінальная справа, якая прадугледжвае зняволенне да шасці гадоў. І гэта для іх зусім не добрая навіна.

---

## ВЯЛІКІЯ ЖАРТУЮЦЬ…

### Не пытай

Адзін малады чалавек спытаў у Вольфганга Моцарта, як пісаць сімфоніі.

– Вы яшчэ зусім малады, – адказаў кампазітар, – чаму б вам не пачаць з балад?

– Але ж вы сачынілі сімфонію ў дзевяць гадоў…

– Так, – згадзіўся Моцарт, – але я нікога не пытаў, як гэта зрабіць.

### Калега?

Раз Альберт Эйнштэйн сутыкнуўся ў калідоры з маладым і малаталенавітым фізікам, які фамільярна ляпнуў яго па плячы і спытаў:

– Ну, як справы, калега?

– Калега? – здзіўлена перапытаў Эйнштэйн. – Няўжо вы таксама хварэеце на рэўматызм?

### Камплімент

Аднойчы на свецкім раўце Марк Твэн гутарыў з адной не вельмі прыемнай у зносінах дамай. Але вырашыў зрабіць ёй камплімент і заўважыў:

– Вы чароўна выглядаеце!

– Не магу сказаць пра вас тое самае, – з’ехіднічала яна.

Твэн усміхнуўся і дадаў:

– А вы зрабіце, як я, – схлусіце!



Аліна ЛЕГАСТАЕВА

# Нечаканы эфект



Быў лайдаком, хоць і пры хаце,
Любіў штодзённа чарку ўзяць.
Старэнькі сад – усё багацце,
Яшчэ каты і курак пяць.

Збіраў садавіну у кошык,
Што спажываў, што прадаваў...
Калі ж траплялі ў рукі грошы,
Тады Валерка запіваў.

Да працы быў не надта здатны,
Але, каб рукі зачапіць,
Казалі хлопцы і дзяўчаты,
Умеў някепска варажыць.

Пыталіся пра лёс кабеты
І нават дзецюкі парой.
Заробак выпадковы гэты
Ішоў таксама на прапой.

Аднойчы ён раскінуў карты,
Так, дзеля смеху, на сябе.
Валерку стала не да жартаў,
Аж пот з'явіўся на ілбе.

Што там убачыў – невядома,
Ды больш не стаў ён варажыць.
Эфекту не чакаў такога,
Бо кінуў заадно і... піць.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

## Знарок не прыдумаеш

- Кансерваваныя прадпрыемствы.
- Выстава доўжыцца нядоўга.
- Ёсць свабодная вакансія.
- Мы ганарымся кандыдатамі, высунутымі ад нашай партыі.
- Забяспечваюць водазабеспячэннем.
- Коннікаў вясёлых стракатанне.
- Нашы спартсмены трапілі ў прызы на чэмпіянаце.
- І мы ўжо недалёкія ад дасягнення нашай мэты.
- Пракрасціся ў сутнасць рэчаў.
- Узмацняльнікі густу.
- На тэрыторыі прыватнага сектара супрацоўнікі міліцыі ўстанавілі факт пражывання ваўка.

**Уважліва чытаў перыёдыку Дзмітрый ПЯТРОВІЧ.**





Малюнкі Алега КАРПОВІЧА.




## Лёля БАГДАНОВІЧ

### ГРЫБНІКІ

Ходзяць па баравікі,
Прыхапіўшы ножыкі,
З нашай вёскі хлапчукі,
Напаўняюць кошыкі.
А ў сталічнага Ягора –
Мухамор на мухаморы.
Як вярталіся дадому,
Рады быў Ягор-грыбнік:
Сябрукі яму, малому,
Падарылі баравік.



### ДОЖДЖ

Дождж заладзіў не на жарты –
Лупіць запар трэці дзень.
Аддыхнуць, няйначай, варта,
Але ж ён ідзе, ідзе...
Супакойся на хвілінку,
Адпачні хоць трошкі!
Сеў, гарэза, на галінку,
Звесіў долу ножкі.



### МАЛЕНЬКАЯ МАСТАЧКА

Дзень быў пахмурны, шараваты,
І Волечка сказала тату:
«У сонца, пэўна, выхадны,
Салодка спіць ды бачыць сны.
А я без сонейка сумую,
Таму вазьму і намалюю.
Нясі хутчэй алоўкі, тата,
Запросім сонейка у хату».

*г. Барысаў.*

## ЗАГАДКІ

Калі сцямнее на двары,
Узняўшы голаў дагары,
Спрасонку вокам луп ды луп –
Міргае нам ліхтарны ...

*(Слуп.)*



Льюцца птушак галасы,
Зеляненюць скрозь лясы,
На лугах багата кветак –
Гэта ўсё бывае ...

*(Летам.)*



Раніцою над ракой
Ён разліўся малаком.
Не міраж і не падман,
Гэта восеньскі ...

*(Туман.)*



Аблокі ён ганяе,
Вандруе па планеце,
З лістотаю гуляе
Гарэзны сябар – ...

*(Вецер.)*

**Святлана БЫКАВА,**
*г. Заслаўе.*

---

## АФАРЫЗМЫ

### Аптымізм

Смех – вялікая справа: ён не адбірае ні жыцця, ні маёмасці, але перад ім вінаваты – як звязаны заяц.

*Мікалай Гогаль, рускі пісьменнік*

Вясёлы чалавек – заўсёды добры чалавек. Нягоднікі рэдка бываюць вясёлымі людзьмі.

*Максім Горкі, рускі савецкі пісьменнік*

Згублены дзень – той, на працягу якога вы ні разу не засмяяліся.

*Жан Мары Гюйё, французскі філосаф*

Гумар – талент адвольна прыходзіць у добры настрой.

*Імануіл Кант, нямецкі філосаф-ідэаліст*

Аптыміст заяўляе, што мы жывём у лепшым з магчымых светаў; песіміст асцерагаецца, што гэта праўда.

*Бранч Кейбал, амерыканскі пісьменнік*






### Як брат

Маленькі Данік, які любіць смачна паесці, раз-пораз цягае з халадзільніка прысмакі. Бабуля не вытрымлівае:

– Данік, ну колькі можна? Пакінь халадзільнік у спакоі.

Хлопчык пярэчыць:

– Бабуля, як я яго пакіну? Ён жа мне нібы брат!



### Калыханка

Бабуля спявае ўнуку Даніку калыханку. Адну гадзіну, дзве, тры... Стамілася. Вырашыла адпачыць.

Малы расплюшчвае вочы і кажа:

– Бабуля, можна я цяпер пасплю?

### Многа-многа

Юлечцы вельмі падабалася, калі ў яе ўсяго было шмат: цукерак, яблыкаў, пячэння. «Хачу многа-многа!» – паўтарала дзяўчынка і атрымлівала яшчэ.

Аднойчы бацькі паведамілі Юльцы, што хутка ў яе з'явіцца сястрычка.

– Дачушка, хочаш, каб у цябе была сястрычка?

– Так, хачу! – усклікнула малая. – Хачу многа-многа сястрычак!

### Няправільныя майкі

Маці ўшчувае малога Васілька:

– Сынок, хопіць есці столькі булачак. На цябе ўжо ніводная майка не налазіць.

– Мамачка, ну я ж не вінаваты, што ты такія цесныя майкі купляеш...



### Салодкі стол

– Можна, я запрашу на свой дзень нараджэння сяброў? – пытаецца малы Васілёк у мамы.

– Канешне, – згаджаецца тая, – я зраблю для вас салодкі стол.

– Як гэта? – не разумее хлопчык. – Ты яго варэннем намажаш?

### Урок этыкету

Бабуля вучыць унука Даніка этыкету:

– Калі кашляеш, трэба прыкрываць рот далонню.

– Не хвалюйся, бабуля, у мяне зубы не павыпадаюць! – супакойвае яе малы.

**Даслала**
**Ганна ЧАРНУШЭВІЧ,**
*Слуцкі раён,*
*в. Замосце.*




Міні-комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

Самы вясёлы смех – гэта смяяцца з тых, хто смяецца з цябе.

*Васіль Ключэўскі, рускі гісторык*



Аптыміст – гэта чалавек, якому вельмі не хапае жыццёвага вопыту.

*Дон Маркіс,*
*амерыканскі пісьменнік і журналіст*

Аптымісты вынаходзяць самалёт, песімісты – парашут.

*Артур Блох, амерыканскі пісьменнік*

Не разумее чалавек жарту – пішы прапала! І ведаеце, гэта ўжо несапраўдны розум, будзь у чалавека хоць сем пядзяў лоб.

*Антон Чэхаў, рускі пісьменнік*

Пачуццё гумару – гэта тое, што прымушае вас смяяцца з чагосьці такога, што здарылася з некім іншым і што прывяло б вас у пачуццё лютасці, калі б гэта здарылася з вамі.

*Невядомы аўтар*

Гумарыст – чалавек, якому добра ад таго, што яму дрэнна.

*Дон Хералд, амерыканскі мастак і пісьменнік*

# Вясёлы слоўнік

БАКАЛАЎР — уладальнік бакалейнага магазіна.

БАНДАЖ — злачынная жаночая групіроўка.

ГАРНІТУР — удалая вандроўка.

ЁГУРТ — музычная рэп-група.

КАЛІБР — самец калібры.

КАРАГОД — пакаранне тэрмінам у адзін каляндарны год.

МАКРАКЛІМАТ — дажджлівае надвор'е.

МІГАЛКА — какетка.

МОРКВА — эпідэмія ў жаб.

НІРВАНА — вопратка без дэфектаў.

ПАКАВАННЕ — прапанова выпіць па кубачку кавы.

ПАРАНОЯ — дзве разнаполыя асобы жывёл з Ноевага каўчэга.

ПАСТЭЛЬ — цвёрдае спальнае месца.

САМАКАТ — самазабойца.

СПАЖЫВЕЦ — пастаянны наведвальнік SPA-салона.

СТАНОК — дзяўчына-мадэль.

СТРЫЖ — цырульнік.

**Ганна КІСЛУШЧАНКА,**
*г. Мінск.*

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 11 (1526), 2015 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Ганна КІСЛУШЧАНКА, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*.

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zvyazda.minsk.by.

Паштовы адрас: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Камп'ютарная вёрстка: Святлана ТАРГОНСКАЯ
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 10.11.2015. Фармат 60х84 $^1/_8$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,26. Тыраж 1465 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск.



## ВЯЛІКІЯ ЖАРТУЮЦЬ...

### Амаль усё

Жонку Альберта Эйнштэйна спыталі, што яна думае пра свайго мужа. Тая адказала:

— Мой муж — геній! Ён умее рабіць абсалютна ўсё, акрамя грошай.



### Клапатлівы майстар

Ісаак Ньютан у вольную гадзіну любіў майстраваць. Неяк ён выпілаваў ва ўваходных дзвярах адтуліну для кошкі, каб тая магла свабодна выходзіць на падворак. А калі яна нарадзіла шасцярых кацянят, Ньютан выпілаваў яшчэ шэсць маленькіх адтулінак.

### Не ўгадаў

Унучка Валянціна Катаева расказвала, як яе сяброўцы ў школе задалі напісаць сачыненне пра во-




браз Вані з аповесці «Сын палка». Дзяўчынка прыйшла да Катаевых у госці і распытала самога пісьменніка, узяўшы яго ныя словы за аснову працы. У выніку за сачыненне яна атрымала тройку з мінусам і каментарый, што Катаеў думаў інакш.

## Гумар сяброў



Уладзімір Абраян (Арменія)



Любамір Котрха (Славакія)



Хрысціан Міхаілеску (Румынія)




Гжэгаш Шумоўскі (Польшча)



– Уяўляеш, з-за гэтых сувязей Пеціну кнігу так расхвалілі, што яго ўдар хапіў!..

Віктар Палухін (Расія)





Малюнкі Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Пра што марыць Юзік?

Як вызначыць сапраўднага Дзеда Мароза?

Што падарыць на Новы год?

Ці ідзе вінегрэт пад фуршэт?

***І многае-многае іншае! Да сустрэчы!***

# Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**




**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2016 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 30600 рублёў,
індэкс 01380, цана 24400 рублёў,
індэкс 748442, цана 88800 рублёў,
індэкс 01381, цана 70000 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**


9 770132 595002 15011